


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 7 (286) КРАСАВІК 2020 ГОДА

**БЕЛАРУСКІ АФАРЫЗМ**

***Вайна – самае праклятае з усіх ліхаў, заведзеных жыццём на зямлі***

***Васіль Быкаў***

НАША ГІСТОРЫЯ

## ТРАГЕДЫЯ ПАТРАБУЕ ДАКЛАДНАСЦІ

**Прапаную ўвазе чытачоў даклад з нязначнымі праўкамі, які быў зроблены ў 2018 годзе на краязнаўчай канферэнцыі, прысвечанай 75-годдзю вызвалення Гарадоцкай зямлі ад нямецка-фашысксіх захопнікаў 24 снежня 1943 году, ў Гарадоцкім краязнаўчым музеі і які застаўся без увагі мясцовых адказных асобаў.**

Шаноўныя таварышы! У летапісу Перамогі мусяць быць адлюстраваны ўсе бакі гісторыі, якая мела сваім вынікам перамогу над фашысцкай Германіяй. І на 75-ю гадавіну перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, як і на 75-ю гадавіну вызвалення нашай Гарадоцкай зямлі ў гэтым адлюстраванні аб падзеях на Гарадоччыне яшчэ шмат белых плямаў.

Гэта датычыцца ваенных дзеянняў на тэрыторыі сучаснага Гарадоцкага раёна, якія пачыналіся з вызвалення Невеля 6 кастрычніка 1943 года, потым былі мясцовыя баі на працягу двух месяцаў да Гарадоцкай аперацыі з трагедыяй на возеры Лосвіда, дзе загінулі 11-я і 18-я гвардзейскія стралковыя дывізіі, а таксама полк 235-й стралковай дывізіі. А далей былі зацяжныя баі абяздоленага 1-га Прыбалтыйскага фронту ў накірунку Віцебска. Бо за час гэтага вызваленчага наступлення фронт — спачатку Калінінскі, а потым Першы Прыбалтыйскі — генералаў Яроменка і Баграмяна панёс страты на працягу кастрычніка — снежня ў 168 902 чалавекі, у тым ліку 43 551 чалавек — незваротна загінулі. А гэта амаль 85% ад агульнага склада фронта ў 198 тысяч чалавек, без двух армій — 6-й гвардзейскай і 39-й па даных вядучага гісторыка, генерала Крывашэява, які быў рэдактарам калетыву ў 90-я годы мінулага стагоддзя, што апісваў страты ў Вялікую айчынную вайну...

Як пасля адзначаў сам І.Х.Баграмян: «Пастаноўка задач, што перавышаюць па сваім аб'ёме магчымасці войскаў, была свайго роду метадам, асаблівым прыёмам кіраўніцтва, якія мелі мэтай дамагчыся максімальнай актыўнасці нашых наступальных дзеянняў у Беларусі ...». Гэта і абумовіла вялікія страты фронту ў людзях, але былі і відавочныя пралікі, як ў дзеяннях 11-й гвардзейскай арміі генерала М. Галіцкага пры наступленні ў першыя дні 1944 году пасля Гарадка на Віцебск па льду возеру Лосвіда.

Але асабліва шмат плямаў ў гісторыі з пакутамі мірнага вясковага насельніцтва Гарадоцкага раёна, тэрыторыя якога зараз складаецца з уласна Гарадоцкага раёна, былога Мехаўскага і часткі Суражаскага раёнаў, пад час нямецкай акупацыі, якая датычыцца знішчэння вёсак і іх жыхароў.

З аднаго боку вядомы сімвалы гэтых пакутаў на беларускай зямлі — Хатынь, Трасцянец, генацыд габрэяў. І вядомы тыя карныя аперыцыя, якія ажыццяўляліся на беларускай зямле ў тым ліку і ў Гарадоцкім раёне супраць мірнага насельніцтва. Гэта па нашаму раёну адлюстравана ў кнізе «Памяць» Гарадоцкага раёна.

Трагедыя вёсак Гарадоцкага раёна ў кнізе «Памяць», выдадзенай да 60-годдзя вызвалення Беларусі ў 2004 годзе, прадстаўлена на аснове матэрыялаў, якія утрымліваюцца ў кнізе «Нацисткая политика геноцида и выжженной земли в Белоруссии 1941-1944 г.г.» Апошняя кніга пабачыла свет у 1984 годзе і з яе выбраны 183 вёскі Гарадоцкага раёна, якія знішчаліся цалкам ці часткова з усімі насельнікамі або не ў час карных аперацый і пад час акупацыі.

Але ўжо да 70-годдзя Хатынскай трагедыі Нацыянальны архіў Беларусі ў 2013 годзе апублікаваў у электронным выглядзе базу даных (http://www.db.narb.by/search/?title=&titles=new&region=4&district=10&year=) аб 306 пацярпелых вёсках на тэрыторыі сучаснага Гарадоцкага раёна, бо ў ваенны перыяд тэрыторыя нашага сёняшняга раёна адносілася і да Мехаўскага раёна і да часткі Суражскага, які зараз знаходзіцца ў межах Віцебскага раёна.

Усяго вясковае насельніцтва Гарадоцкага раёна найбольш пацярпела пад час пяці карных аперацый вермахта напрыканцы 1942 года і да мая 1943: першая аперацыя «Малпава клетка» адбылася у лістападзе 1942 года, другая — «Зімовы лес» ішла ў снежні 1942 і ў студзені 1943 гадоў, трэццяя — «Шаравая маланка» — была найбольш жахлівай і праходзіла цэлы месяц у Шчалбоўскіх лясах з лютага па сакавік дарэчы у час Хатынскай трагедыі. І пра яе будзе распавядацца на сёняшняй канферэнцыі. У той жа час пачалася чацвёртая карная аперацыя «Грамавы клін І і ІІ» на тэрыторыі Гарадоцкага і Полацкага раёнаў і апошняй аперацыяй стала «Майская навальніца» ў траўні 1943 года. Але насельніцтва раёна несла страты і ў іншыя часы акупацыі, у тым ліку як перад так і пад час вызваленчай Гарадоцкай аперацыі снежня 1943 года, калі пацярпела не менш 16 вёсак. А адна з іх вёска Кавалі занесена ў хатынскі мемарыял.

І гісторыя чакае, калі будзе зроблена хранaлогія знішчаных вёсак на Гарадоцкай зямлі.

Вынікам жа карных дзеянняў фашыстаў сталі сотні знішчаных вёсак з тысячамі пабураных і спаленых дамоў, а галоўнае тысячы забітых і забраных у Нямеччыну жыхароў з тэрыторыі Гарадоцкага раёна.

І як кажуць мудрыя людзі вайна заканчваецца тады, калі мы памянем усіх тых, хто на ёй загінуў. Але гэта апошняя вайна на нашай зямлі была такая жахлівая, што і праз амаль 77 гадоў пасля яе завяршэння застаецца

***(працяг на стар. 2)***

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

## ПЕРШАЯ АХВЯРА «КАРОНЫ» Ў ГАРАДКУ?

**Аляксандр Булаеў, які працаваў на Гарадоцкім прадпрыемстве кацельняў і цеплавых сетак, адзначыў свой 58-ы дзень народзінаў у віцебскай бальніцы. Раніцай 28 красавіка мужчына памёр, паведамляе Haradok.info.**



Булаеву дыягнаставалі пнеўманію, спачатку паклалі ў бальніцу ў Гарадку. Але стан пагаршаўся, і мужчыну перавезлі ў Віцебск. Там яго падключылі да апарата штучнай вентыляцыі лёгкіх.

Жонка Булаева працуе медсястрой. У яе першы тэст на каранавірус быў пазітыўны, выніку другога пакуль няма.

Аляксандру таксама зрабілі тэст, цяпер чакаюць яго выніку.

***"Наша Ніва"***

COVID-19

## БОЛЬШ 600 НА САМАІЗАЛЯЦЫІ?

**У Гарадоцкім раёне больш 600 чалавек, якія хворыя на COVID-19 і кантактаў першага і другога узроўню з COVID-19?**

Раённы штаб сёння сціпла нагадаў пра сваё існаванне інфармацыяй пра рэгістрацыю ў раёне 13 станоўчых тэстаў на COVID-19 па стану на 22 красавіка. І ўсё.

Зразумей гэта як хочаш, калі няма ніякай іншай інфармацыі за тыдзень. Рэспубліканскі штаб пайшоў у «самаволку» 18 і 19 красавіка, калі наш кіраўнік заклікаў ісці ў царкву насуперак рэкамендацыям і праваслаўных кіраўнікоў, і спецыялістаў у эпідэміялогіі. Але потым Мінздароўя стаў паведамляць патрэбныя для тутэшага кіраўніка лічбы у наступныя дні. І выдаў сёння рэкордны прырост у 741 новага чалавека з COVID-19 і смяротнасць 60 чалавек.

А што адбылося за тыдзень? На Віцебшчыне паведамілі пра вялікі паказчык паражэння CO-VID-10 у Докшыцкім раёне — 72 па стану на 17 красавіка і там дзеткі не пайшлі ў школы. 22 красавіка выбухнуў Пастаўскі раён з 32 хворымі , а таксама і Аршанскі раён — 73 і тры смерці.

І вось сёння даведаліся пра падвааеннне за тыдзень хворых у нас. Адкуль яны — з Гарадка ці з раёна? Колькі ў іх кантактаў першага ўзроўня? А колькі кантактаў другога ўзроўня? Ці з гэтымі кантактамі ўжо не разабрацца і варта уводзіць каранцін?

Але «штабы» падобнай інфармацыі не даюць. Таму і няма да яе веры. Гэта як у нас у Гарадку было з інфармацыяй 7-9 красавіка, калі спачатку НІКОГА, а потым пры відавочных фактах стала і 2, і 4, і 6. За тыдзень.

Застаецца толькі разважаць. Тыдзень назад па Беларусі ад хворага на каранавірус было ў сярэднім 6,3 чалавека першага кантакта. То тады ад 13 гэтых хворых першага кантакта ёсць 82 чалавека, а другога узроўня яшчэ 516 чалавек. І адпаведна ў зоне разыкі больш 600 чалавек на увесь Гарадоцкі раён.

Пры гэтым гэтыя 600 чалавек павінны быць на самаізаляцыі два тыдні. А як яны выконваюць рэжым самаізаляцыі? Але больш істотна, які зараз стан здароўя хворых на COVID-19?

Вядома, што медыкі мужна дзейнічаюць у гэтых архіскладаных умовах, бяручь на сябе поўную адказнасць за лёс кожнага хворага. Жадаема, каб і арганізатары медыцыны кампетэнтна знаёмілі грамадзян з развіццём выпадкаў, выкліканых каранавірусам у Гарадоцкім раёне. Веды — зброя, а утойванне, недастатковасць інфармацыі — як мінімум: недавер.

*Ад рэдакцыі: Праз дзень штаб паведаміў ужо пра 22 станоўчых тэста на COVID-19.*

**Леанід Гаравы**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размяшчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

НАША ГІСТОРЫЯ

*(пачатак на стар. 1)*
шмат недаследаванага ў той трагедыі мірнага насельніцтва, якое засталося на акупаванай тэрыторыі. І гаворка не ідзе пра асобных грамадзян, а ідзе пра вёскі, якія знішчаліся пад час акупацыі, пра тую няпоўную памяць і адпаведна няпоўную мемарыялізацыю трагедыі вясковага насельніцтва асабліва на Віцебшчыне.

Гэта таксама датычыцца і ў значнай меры тэрыторыі Гарадоцкага раёна, які ўваходзіць у тройку самых пацярпелых раёнаў Віцебшчыны разам з Верхнядзвінскім і Віцебскім раёнамі па колькасці знішчаных вёсак.

У апошнім спісе Нацыянальнага архіва Беларусі ўтрымліваецца 306 вёсак па тэрыторыі Гарадоцкага раёна, якія пацярпелі разам са сваім насельніцтвам. Але з гэтай колькасці не маюць спасылак на архіўныя даныя і лічбы па іх стратах не падмацоўваюцца для 36 вёсак. Пры гэтым сярод іх і такія вёскі, як Падранда і Сямёнава, якія занесены ў спіс «Могілкі вёсак» Хатыні, але пра іх няма архіўных даных, а вёскі Падранда няма і ў спісе вёсак раёна ў пачатку кнігі «Памяць» Гарадоцкага раёна.

Яшчэ пра 60 пацярпелых вёсак Гарадоцкага раёна маюцца архіўныя даныя, ў якіх няма даты карнай аперацыі супраць жыхароў гэтай вёскі, а пра 11 гэтых вёсак няма даных пра дамы і жыхароў, як да вайны, так і пад час карнай аперацыі.

Архіўныя даныя сведчаць што з гэтых пацярпелых вёсках не забіваліся людзі ў 49, але ў іх бурыліся або спальваліся дамы. Або зафіксавана адварotная карціна — вёскі унесены ў спіс пацярпелых, а з іх складу не пацярпеў ніводны дом. Такіх у апошніх даных — 39, але ў 6 з іх былі забіты людзі і найбольш у вёсках — Бягуны, Халуі і Гарадок, што тады была на тэрыторыі Суражскага раёна.

Праведзеная сістэматызацыя вёсак з базы даных Нацыянальнага архіву па Гарадоцкаму раёну сведчыць, што і праз 76 гадоў пасля вызвалення Гарадоцкага раёна няма дакладнай карціны трагедыі мірнага насельніцтва на акупаванай тэрыторыі.

Сёння для раёна архіважна распачаць працу па вывучэнню архіўных даных, якія датычацца Гарадоцкага раёна ў частцы белых плямаў з Нацыянальнага архіву і тут ніяк не абыйсціся без рэсурсаў на вывучэнне і сістэматызацыю архіўных даных па пацярпелых вёсках, якія мемарыялізаваны ў самаробных помніках, а таксама аднаўленне сапраўдных даных на мемарыяле спаленым вёскам ва ўрочышчы Вараб'ёвы горы.

*(працяг будзе)*

**Леанід Гаравы, краязнаўца**

ТАРАСАЗНАЎСТВА

# СТАЛА ВЯДОМА ДАКЛАДНАЯ ДАТА СМЕРЦІ

**Удакладнена дата смерці нашага славутага земляка, аўтара паэмы «Тарас на Парнасе» Канстанціна Вераніцына.**

15 красавіка даведаўся, што ў верасні 2019 года Антон Францішак Брыль, беларускі перакладчык і паэт, унук Янкі Брыля, знайшоў некралог Канстанціна Вераніцына ў газеце «Новое время» за 1903 год. Пра абставіны пошука даты смерці К. Вераніцына і сам некралог нашага славутага земляка Антон Францішак Брыль распавёў у снежаньскім часопісу «Роднага слова» за 2019 год такім чынам.

Вядома, што біяграфія Канстанціна Васілевіча Вераніцына, самага верагоднага аўтара паэмы «Тарас на Парнасе», падрабязна прасочаная Генадзем Кісялёвым — ад нараджэння ў 1834 г. пад Гарадком на Віцебшчыне да апошніх гадоў у Санкт-Пецярбургу. Аднак дакладная дата смерці героя даследавання не знайшлася. Антон Францішак Брыль адзначае: «Кісялёў вызначыў, што ў лютым 1904 г. быў выдадзены пашпарт удаве Вераніцына, Елізавеце Аляксееўне, і зрабіў выснову, што Канстанцін Васілевіч пакінуў свет, магчыма, у тым жа ці папярэднім месяцы» Пра гэта ў прыватнасці і напісана ў апошняй кнізе Генадзя Кісялёва «Жылі-былі класікі» 2005 г. выдання. Гэтая дата — пачатак 1904 г. — і замацавалася ў даведніках.

У верасні 2019 г., гартаючы ў чытальнай зале аддзела газет Расійскай нацыянальнай бібліятэкі падшукваючы «Мінскага лістка», А.Ф. Брыль вырашыў выпрабаваць удачу ў даследаванні біяграфіі Вераніцына. Па парадзе бібліятэкара ён звярнуўся да папулярнай газеты «Новое время».

На першай старонцы нумара за 14 (27) жніўня 1903 г. сярод аб'яў у жалобных рамках знайшлася шуканая інфармацыя: «Елизавета Алексеевна Вереницына с горестью извещает родних и знакомых о кончине горячо любимого мужа, Статского Советника КОНСТАНТИНА ВАСИЛЬЕ ВИЧА ВЕРЕНИЦЫНА, последовавшей в ночь на 13-е августа. Панихиды в квартире (Лесное, Малая Объездная, 14) в 1 час дня и 9 вечера. Вынос тела для отпевания в церкви у Круглого пруда в субботу, 16-го августа, в 9 ч. утра. Погребение на Митрофаниевском кладбище».

Значыць дакладная дата смерці Вераніцына — 13 (26) жніўня 1903 г., а месца — Лясны ўчастак (сёння гэта частка Выбаргскага раёна Санкт-Пецярбурга). Метрычны запіс смерці паўтарае звесткі некралога і называе прычыну смерці: «От паралича вследствие кровоизлияния в мозг».

У спісе пахаваных у жніўні 1903 г. на Мітрафаніеўскіх могілках насупраць імені Канстанціна Вераніцына пазначана месца магілы: «по дор. Сорокина налево».

Напрыканцы публікацыі Антон Францішак Брыль адзначае: «Удакладненая дата смерці Канстанціна Васілевіча Вераніцына дае магчымасць аднавіць пошукі больш падрабязных некралогаў (альбо ўспамінаў на гадавіну смерці) у шматлікіх сталічных газетах і часопісах. Таксама і адрас у Лясным можа прынесці новыя ідэі даследчыкам. А вось надзеі знайсці магілу Вераніцына амаль няма: Мітрафаніеўскія могілкі Санкт-Пецярбурга — як і храм Пятра і Паўла ля Круглага става — не захаваліся. »

**Леанід Гаравы, краязнаўца**

ФІНАНСЫ

# СКЛАДАНАЯ СІТУАЦЫЯ З ФІНАНСАМІ АРГАНІЗАЦЫЙ

**Перад пачаткам эпідэміі фінансавы стан Гарадоцкага раёна не палепшыўся— раён застаецца сярод адстаючых.**

Віцебскі абласны статыстычны камітэт апублікаваў даныя аб развіцці раёнаў Віцебшчыны за першыя два месяцы 2020 году, якія папярэднічалі прыходу эпідэміі COVID-19 у Беларусь. У раздзеле «Фінансы арганізацый» Гарадоцкі раён выбраў месца не ў самым канцы, але сярод апошняй чвэрці.

Віцебскі абласны статыстычны камітэт у раздзеле «Фінансы арганізацый» прыводзіць шэсць паказчыкаў фінансавага становішча раёнаў. Першым паказчыкам ідзе рэнтабельнасць арганізацый Гарадоцкага раёну. Рэнтабельнасць продаж арганізацый за год з дадатнай стала адмоўнай: была ў 2019 г. 5,8%, а стала за люты 2020 г. –2,1%. Аналагічна пагоршылася і рэнтабельнасць тавараў, прац і паслугаў. Самая горшая рэнтабельнасць у Бешанковіцкім раёне –10,4%, а найлепшая па прадажах у Пастаўскім 11,0%., а з мінусавой рэнтабельнасцю усяго 7 раёнаў Віцебшчыны.

Другім паказчыкам ідзе прыбытковасць арганізацый раёнаў Віцебскай вобласці. Тут зноў гарадоцкія арганізацыі зменшылі чысты прыбытак з 827 тысяч рублёў да 384 або толькі 46,4 % мінулагодняга ўзроўня. Але гэта ўсё ж не ў мінусе, бо з мінусам спрацавалі шэсць рэгіёнаў і найбольшая стратнасць у Наваполацка –13млн. 773тыс. рублёў, а сярод раёнаў — найбольшая стратнасць у Бешанковіцкага — –1 195 тыс. руб..

Далей аблстат інфармуе, што колькасць стратных прадпрыемстваў на Гарадоччыне зменшылася з 6 да 4, а іх страты з 415 тыс. руб. да 214 тыс. руб або 51,6% ад мінулагодняга ўзроўня. Між тым 11 адміністратыўных адзінак павялічылі страты ад прадпрыемстваў і найбольш Наваполацк і Лёзненскі раён. Па Віцебскай вобласці іх стратнасць вырасла да 54 млн.140 тыс. руб або на 167,1%.

Па пратэрмінаванай дэбіторскай запазычанасці — колькі вінны арганізацыям Гарадоччыны атрымаўшыя іх тавар, прадукцыю і паслугі, то тут за месяц запазычанасць вырасла з 5 184 тыс. руб да 5 548 тыс. руб і склала 45,3% ад усёй дэбіторскай запазычанасці. Больш працэнт пратэрмінаванай запазычанасці па выніках лютага маюць толькі Сенненскі і Мёрскі раёны — па 56,8% і 52,1%. Па Віцебшчыне пратэрмінаваная дэбіторс-кая запазычанасць павялічылася і дасягнула 889 689 тыс. рублёў.

Па пратэрмінаванай крэдыторскай запазычанасці адбылося за месяц адбыўся рост з 20 805 тыс. руб да 21 144 тыс. руб. і гэтая пратэрмінаванасць дасягнула 33,3% ад усёй запазычанасці па крэдытах. Яшчэ большая працэнтная запазычанасць у сямі раёнах Віцебшчыны, а найбольшая ў нашых суседзяў — Шумілінскага раёну: 52,1% або 38 134 тыс. рубл.

Апошні паказчык фінансавай дзейнасці раёнаў і гарадоў — пратэрмінаваная запазычанасць па крэдытах і займах. Тут арганізацыі Гарадоцкага раёна дасягнулі зняншэння на 3(!) тысячы рубля да 3 653 тыс. руб. .Большую запазычанасць маюць яшчэ дзевяць адміністрацыйных адзінак : усе буйныя гарады акрамя Наваполацка, а сярод раёнаў вылучаюцца Глыбоцкі, Лепельскі і Сененскі раёны, якія маюць адпаведна: 28 868 тыс. руб, 17 789 тыс. руб., 12 408 пратэрмінаванасці.

Статыстычныя даныя фінансаў засведчылі кепскую фінансавую дысцыпліну усёй Віцебшчыны, якая у гэтым пытанні мусіць «наперадзе» усёй краіны.

**Л. Антонаў**

КОШТ

# УКРЕПИТЬ ИММУНИТЕТ

**Районка мониторила цены на лимоны, чеснок и имбирь в отдельных магазинах Городка.**

В связи с последними эпидемиологическими событиями люди держат оборону: оккупируют аптеки, вырывая друг у друга «целительные» препараты и «спасительные» маски. Сознательные граждане не забывают про более щадящие способы укрепить иммунитет и вводят в свой рацион больше витаминов. Но стоит взглянуть на ценники, как снова хочется зайти в аптеку, например, за корвалолом...

На редакцию нашей газеты обрушился шквал звонков по поводу завышенной стоимости имбиря, лимонов и чеснока. Корреспонденты не остались в стороне и провели собственный независимый мониторинг цен в некоторых магазинах райцентра.

Итак, первая «остановка» на нашем маршруте — дискаунтер «Копеечка», в котором, как гласит реклама, можно купить все необходимые продукты по минимальным ценам. Но наша корзина покупателя сегодня особенная. Правда, пополнить её здесь мы можем только лимонами (Испания), которые есть в продаже по 10,99 руб. за кг. Чуть дешевле эти фрукты (правда, уже из Марокко) мы нашли в торговом центре «Гостинец», по 10,92 руб. Для более полной картины посетим ещё один популярный магазин «Хит! Экспресс». Здесь под отметкой «хит продаж» покупателям предлагают лимоны, стоимостью 9,99 руб. за кг.

А вот в поисках чеснока и имбиря пришлось побегать. Удача улыбнулась нам только в торговом павильоне с фруктовым названием «Апельсин». Да, ассортимент витаминных фруктов здесь на порядок шире, но цены сразу заставляют поумерить аппетит. Итак, ценники гласят: чеснок — 15 руб., имбирь — 40 руб. Завершить свой мониторинг мы решили посещением ещё одного популярного магазина — «Евроопт». Здесь нашлись все искомые товары, причём по наиболее низким ценам: лимоны — 8,99 руб., имбирь — 29,99 руб., чеснок — 12,99 руб.

Мы убедились, что недовольство народа имеет под собой основания, ведь цены действительно выросли буквально на глазах. За какую-то неделю некоторые товары подорожали в десятки раз! Конечно, нужно понимать, что цена товара зависит от стоимости закупки, но очевидно, что она не могла вырасти пропорционально сегодняшней стоимости лимонов, чеснока и имбиря. Что ж, мы будем следить за ценами и держать вас, читатели, в курсе.

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ДЗЯРЖАВА ДЛЯ НАРОДА І ЗАМОРСКІ ВІРУС

**Заўважыць няўзброены вокам каронавірус, які паставіў з ног на галаву сучасную цывілізацыю, маюць талент адзінкі. У Беларусі на гэта не здольны нават той, хто ў стане разгледзець факты карупцыі і галавацяпства з акна Палаца Незалежнасці. Але перад каронавірусам нават ён спасаваў.**




У штатных ідэолагаў не паўстала цяжкасцяў патлумачыць грамадству праблемы, з якімі сутыкнулася Еўропа: еўрапейская дэмакратыя аказалася гнілаватай; інтэграцыйны праект не вытрымаў першага выспятка і разваліўся, нібы картачны домік. Шмат яшчэ такой жа арыгінальнай інфармацыі паведамілі нам дзяржаўныя СМІ. Чытай — не хачу.

Але жыццё, нібы прапаршчык на пляцы, дзейнічае па прынцыпе «не можаш — навучым, не хочаш — прымусім». Колькі беларусаў былі здольныя адрозніць лінейны рост ад экспанентнага? Апошні, калі хто яшчэ не паспеў разабрацца, адрозніваецца тым, што велічыня расце тым хутчэй, чым большае значэнне яна прымае.

Такі рост, у прыватнасці, характэрны для павелічэння колькасці хворых падчас эпідэмій. Г. зн. чым больш людзей заражаюцца каронавірусам, тым хутчэй ён ахопліває астатняе насельніцтва краіны. І з першых дзён красавіка беларусы маюць магчымасць адсочваць, як гэта адбываецца на практыцы.

На думку адзінага палітыка (АП), выказаную ім 7 красавіка, «катастрофы абсалютна няма. Так, прырост у нас назіраецца. Дзякуй Богу, што не лавінападобны». А цяпер звернемся да хітрай, але афіцыйнай статыстыкі: па стане на 6.04 колькасць інфікаваных склала 700 чалавек (+138), на 7.04 — 861 (+161), на 8.04 — 1066 (+205), на 9.04 — 1486 (+420), на 10.04 — 1981 (+499) і гэтак далей.

За тры дні колькасць інфікаваных у Беларусі больш чым падвоілася! Ці лічыць такую дынаміку лавінападобнай — справа густу. Для параўнання, у Германіі «колькасць хворых падвойваецца раз на пяць дзён» (канцлер Ангела Меркель).

**Пра ролю вірусаў у гісторыі**

Эпідэміі прыходзяць і сыходзяць, а жыццё працягваецца. У краінах, якія здолелі пераламаць экспанентны рост колькасці інфікаваных, усёбольшактыўна пачынаюць абмяркоўваць посткаронавірусную будучыню. Большасць экспертаў сыходзіцца ў меркаванні, што яна стане істотна адрознівацца ад звыклай нам сучаснасці.

Тут будзе дарэчы прыгадаць пра эпідэмію чумы, якая знішчыла каля **паловы насельніцтва Еўропы ў 1346–1353 гадах**. Яе галоўнымі вынікамі сталі рост кошту рабочай сілы і крызіс каталіцызму.

Праз імклівае скарачэнне колькасці працоўных рук прымусілі нагадаць пра сябе законы попыту і прапановы. І няхай сярэднявечныя працадаўцы (зямельныя арыстакраты) і не падазравалі пра іх існаванне, але не лічыцца з гэтымі законамі на практыцы яны не маглі. Таму, насуперак векавым традыцыям, былі вымушаныя рэгулярна «ісці насустрач пажаданням працоўных» у пытаннях заробтнай платы.

Што тычыцца каталіцкай царквы, то пасля дэманстрацыі сваёй няздольнасці спыніць распаўсюд «чорнай смерці», ёй было складана зноў прэтэндаваць на палітычнае і маральнае панаванне. Праз дзвесце гадоў, на думку многіх сур'ёзных даследчыкаў, часткова страта легітымнасці адгукнулася тэзісамі Лютэра, якія паклалі пачатак размежавання заходніх хрысціян на каталікоў і пратэстантаў.

Безумоўна, гэта быў не адзіны выпадак, калі вірусы і бактэрыі паўплывалі на ход гісторыі. Не выключана, што да ліку лёсавызначальных будзе прылічана і эпідэмія, выкліканая каронавірусам SARS-CoV-2.

**Моцныя гэтага свету рыхтуюцца да перадзелу свету**

*...Бліжэйшая будучыня посткаронавіруснага свету ў першую чаргу хвалюе тых, каму ёсць што губляць.* Праілюструю сказанае фрагментам інтэрв'ю АП тэлерадыёкампаніі «Мір»: «А ці не здаецца, што моцныя гэтага свету без вайны (Макрон гэта ўжо вайной назваў) праз гэты так званы каронавірусны псіхоз хочуць перадзяліць свет?»

Думка не новая. Нездарма ж Беларусь прэтэндуе на статус «донара еўрапейскай стабільнасці». Каму гэта спадабаецца? Зайздроснікаў у нас хапае. Яны плодзяцца, нібы хваробатворныя бактэрыі ў кубку Петры.

Успомнім «абасраную карову» з аграхолдынгу «Купалаўскі», што на Магілёўшчыне. Нездарма тая гаротная жывёла трапілася на вочы галоўнаму спецыялісту краіны па надоях і прыбаўках. Ох, нездарма! Лепшага спосабу дыскрэдытаваць наш курс на развіццё калгасна-саўгаснай вытворчасці ў сельскай гаспадарцы і не прыдумаць. Тут адчуваецца вопытная рука заходняга лялькавода. Не самі ж работнікі фермы давялі карову да такога стану!

Адна «абасраная карова», другая «абасранная карова»... Аднак жа справа не ў стане канкрэтнай каровы. На коне стаіць харчовая бяспека краіны. А без яе — бывай, суверэнітэт! Бывай, незалежнасць!

**А кароль жа голы!**

За чвэрць стагоддзя мы прызвычаіліся, што манаполіяй на ісціну ў нас валодае адзін чалавек. Па якіх канкрэтна пытаннях ён выказваў сваё меркаванне — значэння не мае. Роля ж астатніх зводзіцца толькі да рэтрансляцыі канчатковых ісцін, што не выпадае абмяркоўваць.

Як тут ні прыгадаць анекдот пра прапаршчыка і здольных лётаць кракадзілаў «але толькі нізенька-нізенька». Чым гэты анекдот адрозніваецца ад рэальнай гісторыі пра вірусы, якія АП і журналісця не здолелі разглядзець на лядовай арэне?

Эпідэмія, што развіваецца па экспаненце, адкрыла адну з галоўных таямніц беларускай мадэлі — таямніцу голага караля. Як аказалася, ніякімі ведамі, акрамя бытавых, ні па адным са значных пытанняў ён не валодае. Для пастаноўкі ж падначаленым задач у агульным выглядзе — вялікага розуму не трэба. Кіраўнік — не той, хто кажа, што трэба рабіць, а той, хто кажа, як трэба рабіць. Гэтая ісціна была сярод азбукавых яшчэ ў гады сталінскіх пяцігодак.

Да эпідэміі ацэнкі экспертаў мала каго цікавілі. Але імпартная зараза паставіла перад кожным гамлетаўскае пытанне: «Быць ці не быць?». І тут адразу паўстаў масавы попыт на меркаванне прафесійных медыкаў. Высветлілася, што інтэрнэт — гэта не памыйніца, а крыніца жыццёва важнай інфармацыі.

Ці абмяжуецца гэта адкрыццё каронавіруснай тэматыкай, ці падштурхне да думкі, што кіраванне дзяржавай немагчымае без апоры на экспертнае меркаванне, — пакажа час, але першы крок у гэтым кірунку зроблены.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

COVID-19

# КОГДА УЖЕ КОЛЕ БУДЕТ ХОРОШО?

**«Не сядзіцца ў хаце хлопчыку малому», — так мог бы описать страдания юного Николая Лукашенко его отец, если бы был поэтом. Но папа Коли был президентом, поэтому вместо литературных упражнений отправил сына в школу вместе со всеми детьми страны. И вот, как всегда: чтобы Коле стало хорошо, плохо должно стать всем.**

— Он три дня отдохнул и опять пошел в школу. И я так наблюдаю: если сын президента так стремится в школу, наверное, он не один, — объяснял Александр Лукашенко свое желание снова открыть школы.

Честно говоря, мотивация так себе. Во-первых, не совсем понятно, куда именно ходил Николай Лукашенко после трех дней сидения дома, когда все школы страны в это время были закрыты на каникулы. Кажется, кто-то папе чего-то не договаривает.

Но дело даже не в этом. Возможно, многие дети действительно рвутся в школы, потому что, как оказалось, просто так сидеть дома не так уж и просто. Кстати, мои дети не исключение. Но отправлять их в школу сейчас — верх безответственности. Не потому, что страшно за их и свое здоровье (вроде не в группе риска), а потому, что лично я не готова ставить под удар жизни других.

Рисковать стариками только потому, что у моего чада резко проснулось тяга к знаниям, для меня непозволительная роскошь. Тем более что сегодня есть возможность получать знания и без такого риска. Да и экономике это никак не повредит.

Но в спиче Александра Григорьевича нет ни слова про других. Его мотивация — «сын президента стремится в школу». Какие старики? Какие больные? Какой вирус? Коля хочет! До этого хотел поспать — и вся страна перекраивала школьные графики. Потом мучился с червями и математикой — и мы переписывали учебники. Теперь вот заскучал дома.

И плевать, что от этого плохо будет почти всем. Учителям, которые теперь будут вынуждены работать и в классе, и дистанционно. Ученикам, которые по-разному смогут усваивать программу из-за разницы подходов. Их родителям и особенно бабушкам с дедушками, для которых риск заразиться вырастет в разы. Врачам, которые и так уже не сильно справляются с потоком заболевших.

И вот возникает вопрос: кому именно хотел сделать хорошо Александр Григорьевич? Потому что и в Колиных глазах, честно говоря, не очень-то читается радость. Сегодня во время пасхального посещения храма он был мрачен и явно не демонстрировал счастья в предвкушении завтрашнего похода в школу.

Но самое показательное, что президент вновь продемонстрировал свое отношение к людям. И когда решил отправить детей учиться, и когда сам поучал других в храме, собрав около себя толпу. Но, кажется, что его вообще не особо волнует, что думают другие.

— Я сейчас не вижу, что мы в чем-то ошиблись, — отметил в воскресенье Лукашенко.

Можете не сомневаться, и не увидит. Очень уж узок его обзор.

**Анастасия Зеленкова**
**gazetaby.com**

COVID-19

# «ТАК НЕЛЬЗЯ ПОСТУПАТЬ С ЛЮДЬМИ»

**23 апреля Александр Лукашенко заявил, что «в Беларуси нет ни одного умершего от коронавируса». После публикации в редакцию TUT.BY позвонила минчанка Татьяна, вдова Эдуарда Тихомирова. Ее мужа не стало утром 4 апреля. В свидетельстве указана причина смерти — коронавирусная инфекция, проститься с умершим семья не смогла — всех забрали в больницу. «Очень больно слышать такие заявления, ведь мой муж умер от коронавируса, и это указано в документах. У него не было лишнего веса и хронических заболеваний, он сгорел за несколько дней».**

Александр Лукашенко не первый раз заявляет, что в Беларуси нет умерших от коронавируса: «Никто от коронавируса в нашей стране не умерт. Я публично об этом заявляю. Это мое твердое убеждение». В сообщениях Минздрава подчеркивается, что умирают пациенты «с рядом хронических заболеваний с выявленной коронавирусной инфекцией».

Сдерживая слезы, Татьяна рассказала, почему ее задели слова президента:

— У нас вся семья пострадала от коронавируса. Сначала заболел мой муж, 21 марта. Следом за ним заболела и я, 27 марта. Никто из нас не выезжал за границу, у нас не было контактов с людьми, которые приехали из-за рубежа. Мы обычные граждане, работаем на госпредприятиях.

Началось все с ломоты в теле — такой, что без таблетки невозможно уснуть. 28 марта мужу стало хуже, температура поднялась до 38,7. Никакой одышки, кашля не было, но пропало обоняние, была сухость во рту. Ему позвонил коллега с работы и рассказал, что у двух сотрудников обнаружили коронавирус, их забрали в больницу. Обращаю внимание, эту информацию мы получили не от руководства предприятия и не от эпидемиологов.

Как выяснилось позже, муж был контактом первого уровня, но на тот момент мы этого еще не знали. 29 марта я вызвала мужу скорую, его забрали в 4-ю больницу, на следующий день мне позвонили и сказали, что у него подтвердился коронавирус. Через два часа за нами приехала скорая, забрали меня, сына и моего пожилого отца, инвалида 2-й группы. Представьте, все мы ходили на работу, мы же не знали, что заражены.

Муж позвонил мне, сказал, что ему сделали снимок и выявили пневмонию. В экстренном порядке его перевезли в 6-ю больницу, сразу же в реанимацию.

Мой муж ничем не болел, ему был 51 год, он 20 лет не был на больничном, это же о чем-то говорит. Он был 198 см ростом и 112 кг весом. Он был красавец просто. Никто не может понять, как мог сгореть такой здоровый мужчина, у него даже повышенного давления не было.

Показатели ухудшились, и его подключили к аппарату ИВЛ. 2 апреля он еще успел мне позвонить, сказал: «Хотел бы держать тебя за руку, это бы придало мне сил». Утром 4 апреля его не стало. В свидетельстве указана причина смерти — коронавирусная инфекция.

Поскольку мы все были в больнице и у всех нас подтвердился коронавирус, проститься с мужем никто не мог. Я фактически по телефону организовывала похороны. 20 ритуальных агентств отказали, когда узнали, что у супруга был коронавирус. В морге вскрыли тело и упаковали в вакуумный пакет, одеть мужа не разрешили. Я попросила дочь, которая живет в другом городе, собрать костюм, который просто положили в гроб перед кремацией. Прощания с мужем не было. Мы до сих пор не можем даже забрать его прах, потому что отец все еще в больнице, а у меня по-прежнему положительный тест.

Меня просто трясет, когда я читаю заявления, что в Беларуси никто не умер и не умрет от коронавируса. Как глава государства может так говорить, ведь он фактически гарантирует это! Но мой муж умер! Бросаться такими словами — это просто кощунство. Люди слушают это и верят! Мы сейчас с сыном на самоизоляции, друзья привозят нам продукты под дверь, но я же вижу в окно, как по-прежнему люди ходят без масок, при встрече здороваются за руку и обнимаются. Они не понимают, как это опасно. Я даже представить не могла, что эта беда затронет мою семью, что это убьет моего любимого мужа, ведь он даже не болел.

Так нельзя поступать с нашими людьми. Мы ходим на работу, платим налоги, выполняем все правила и законы нашей республики. За что же к нам такое отношение?..

**news.tut.by**

# ЯК СІТУАЦЫЯ ВЫЙШЛА З-ПАД КАНТРОЛЮ

**Загадчык рэанімацыі віцебскай бальніцы расказаў, як і чаму сітуацыя з каранавірусам у горадзе выйшла з-пад кантролю.**

Пра тое, як спраўляюцца з эпідэміяй каранавіруса ў Віцебску, «Імёнам» расказаў Уладзімір Мартаў, які загадвае рэанімацыяй ў бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі. Цяпер ён лечыць пацыентаў з віруснымі пнеўманіямі, шмату каго пацверджаны каранавірус. Уладзімір тлумачыць: кожны доктар можа дапамагчы дзясяткам людзей, але калі правільна арганізаваць сістэму дапамогі, можна дапамагчы — тысячам.

На працы я адчуваю сябе абароненым. Усе неабходныя сродкі абароны ў нас былі з першага дня. Мы былі гатовыя да прыёму вірусных пнеўманій. Нам загадзя ўсталявалі патрэбнае абсталяванне, дапамаглі падзяліць бальніцу на зоны.

Многія нам дапамагалі: спонсары, звычайныя людзі, калегі з Мінска, нават міністр аховы здароўя. Але наша бальніца — не паказальная для Віцебска, а, хутчэй, узорна-паказальная. У астатніх бальніцах — сітуацыя іншая. Тыя, хто прыняў на сябе першы ўдар, моцна пацярпелі: там захварэлі і дактары, і іншыя пацыенты.

Сучасная медыцына павінна вырашаць праблемы не ў момант эпідэміі, а загадзя. Мы ўсе чыталі навіны пра каранавірус яшчэ зімой. Я — доктар — і рыхтаваўся да яго прыходу як доктар: вывучаў даследаванні, як лячыць людзей з каранавірусам. Але я не мог спрагназаваць, як гэты вірус будзе распаўсюджвацца, з якой хуткасцю, якія будуць маштабы. Для гэтага ёсць іншыя прафесіі: вірусолагі, эпідэміёлагі. Не дактары, а людзі, якія займаюцца арганізацыяй аховы здароўя, закупляюць абсталяванне, сродкі абароны, прымаюць стратэгічныя рашэнні.

**У Віцебску сітуацыя выйшла з-пад кантролю.**

Для прыёму хворых з каранавірусамі падрыхтавалі адну бальніцу і туды адпраўлялі ўсіх са станоўчымі вынікамі тэсту. Але гэта вар'яцтва — абапірацца толькі на тэсты пры прыняцці рашэнняў. Яшчэ ва ўніверсітэце ўсіх студэнтаў вучаць, што не існуе тэстаў з пэўнасцю 100%. І што атрымалася?

Мужа са станоўчым вынікам клалі ў інфекцыйную бальніцу, якая была гатовая да такіх пацыентаў. А жонку з адмоўным вынікам, але з такімі ж сімптомамі — у іншую, дзе ніхто не быў абаронены. У мяне ў бальніцы ляжаць мама і дачка з адной сям'і. У дачкі станоўчы вынік, у мамы — адмоўны. Мама ледзь выжыла. Ход хваробы ў яе быў тыповы для ўсіх пацыентаў з каранавірусам.

Не ўлічылі і тое, што крыніц заражэння можа быць шмат: людзі прыехалі з адпачынкаў, вярталіся з працы за мяжой. З-за гэтых памылак шуганула адразу ў шмат якіх шпіталях.

Медработнікі, вядома, таксама захварэлі. І гэта — проста паскудства. Іх не папярэдзілі пра рызыкі. Яны былі ўпэўненыя, што прымаюць хворых са звычайнай пнеўманіяй і ВРВІ, якіх у гэты перыяд шмат. Я сам 22 сакавіка ездзіў у адзін са шпіталяў дапамагаць калегам — у нас не было ніякай абароны [*18 сакавіка стала вядома пра першую смерць ад пнеўманіі з падазрэннем на каранавірус у Віцебску, але ўлады да 31 сакавіка публічна адмаўлялі наяўнасць складанай сітуацыі ў Віцебску, а пасля не раз заяўлялі, што сітуацыя пад кантролем* — **НН**]. Але зусім нечакана мы сутыкнуліся з валам вірусных пнеўманій, многія з якіх былі каранавіруснымі. Сродкаў абароны не было.

Лекары, медсёстры, санітаркі, ліфцёр, раздатчыца і многія іншыя людзі бачылі, як заражаюцца і нават паміраюць іх калегі, аднакурснікі, сябры.

У шпіталях пачалася паніка і дэзерцірства: хтосьці звальняўся, хтосьці сыходзіў на бальнічны. **Працаваць без абароны было нормай у савецкія часы, але для сучаснага свету гэта — дзікунства.**

Калі ў бальніцы няма патрэбнага абсталявання, а ў доктара — патрэбных сродкаў абароны, ты нічога не зробіш. Ты можаш быць разумным і добрым доктарам, але ты будзеш нямоглы.

Праз тыдзень пасля ўспышкі ў горадзе ў нашай бальніцы з'явіліся сродкі абароны і патрэбнае абсталяванне. Мы праехаліся па іншых бальніцах, праверылі пацыентаў і дактароў. Сярод іх выявілі тых, каму патрэбна была дапамога з кіслародам, забралі да сябе і дапамаглі. Дзякуючы гэтаму і ўдалося пагасіць паніку.

Першы рэспіратар і ахоўны касцюм, якія я надзеў, **прывезлі валанцёры**. Лік тады ішоў на гадзіны, паспелі. Калі б мы пачалі прымаць хворых без абароны, захварэлі б самі. Цяпер сродкаў абароны з кожным днём — усё больш. Дзяржава прывозіць асноўную частку. Да канца эпідэміі будзем забяспечаны цалкам. Але хацелася б, каб гэта было ў пачатку.

Цяпер усіх перапаўнее любоў да дактароў. Але наўрад ці гэта будзе доўжыцца доўга. Напярэдадні эпідэміі прагрымела «справа лекараў». Гэтыя справы працягваюцца, нічога не змянілася. А калі каранавірус скончыцца, будуць зноў з намі разбірацца ўжо з нагоды спонсарскай дапамогі. Мне прывозяць дыхальныя апараты, сродкі абароны, я іх хапаю, таму што яны мне патрэбныя проста зараз, і іду працаваць. Але я не ведаю, ці правільна я іх схапіў ці не. Старэйшая медсястра проста з глузду едзе цяпер ад пісаніны — спонсарскую дапамогу трэба правільна аформіць.

Такое адчуванне, што мы — на вайне, а астатнія — не. Некаторыя мае калегі некалькі тыдняў жывуць на працы. Гінеколагі, скурвенеролагі навучыліся лячыць людзей з пнеўманіяй. Мы — рэаніматолагі — займаемся хворымі, кансультуем і вучым калегаў у шпіталях. Я ўжо стаміўся, мякка кажучы. А потым, ты вынырваеш з вайны ў свет, а тут — наогул іншае жыццё. Людзі не зразумелі, што пачалася вайна. Пракуратура, праверкі, майго асноўнага работніка анестэзіёлага-рэаніматолага хочуць пакласці «на абследаванне» для прызыву ў войска. Складана супастаўляць гэтыя рэальнасці.

Я б марыў, каб з маёй дапамогай памерла менш хворых, чым без мяне, але не факт. Мы не можам усіх выратаваць, людзі паміраюць.

**Тое, што ў нас не паміраюць ад каранавіруса, гэта ж не медык сказаў.** Учора ў мяне ў рэанімацыі памерла медсястра, 41 год, за жыццё якой мы змагаліся паўтара тыдня.

У медработніка вірусная нагрузка на парадак большая, чым у пацыента, што заразіўся пры выпадковым кантакце ў транспарце або краме. Таму часта хада хваробы праходзіць цяжэй.

Часам і чалавек, і дактары, робяць усё, і не атрымоўваецца. Часам людзі самі сабе шкодзяць.

Адзін мой пацыент калісьці хадзіў на Эверэст і дзякуючы гэтаму вопыту выбраўся з крайне цяжкага стану. Ён ведаў, што калі кіслароду мала, яго трэба эканоміць: не крычаць, не гаварыць, не панікаваць, а проста ляжаць на жываце. Гэта вельмі важна.

На жаль, не ўсе гэта робяць, а я прымусіць не магу…

Правільная арганізацыя ратуе ў дзясяткі разоў больш, чым любы доктар. Я дапамагаю канкрэтным людзям: адзінкам, дзясяткам. Я сяджу ў акопе на перадавой і спадзяюся, што ў генеральным штабе хтосьці думае. І хачу верыць, што людзі таксама клапоцяцца пра сябе і не падстаўляюцца. Нам, дактарам, вельмі важна ведаць, што мы — не адны на гэтай вайне.

*(скарочана)*

**"Наша Ніва"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: leo592202@gmail.com Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 29.04.2020 у 16.50** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.